Цана 6 кап.

КУЛЬТПРОП ЦК КП(б)Б

ПРАГРАМНА-МЭТАДЫЧНАЕ БЮРО

# МЭТАДЫЧНЫЯ ДАПАМОЖНІКІ

## ДЛЯ ПАРТАСЬВЕТЫ і ДАКЛАДЧЫКАЎ

№ 4 — ЧЭРВЕНЬ, 1931 г. — № 4

ВЫДАНЬНЕ ЦЭНТРАЛЬНАГА ДОМУ КАМАСЬВЕТЫ — МЕНСК

## ПАЗЫКА—„III РАШАЮЧАГА ГОДУ ПЯЦІГОДКІ"

*Тэма разьлічана на 4 гадзіны.*

### МЭТА ТЭМЫ:

1. Высьвятліць значэньне пазыкі „III рашаючага году пяцігодкі" для справы завяршэньня фундаманту сацыялістычнай эканомікі СССР.
2. Азнаёміць з канкрэтнымі ўмовамі выпуску пазыкі.
3. Мабілізаваць увагу слухачоў і арганізаваць іх для актыўнага ўдзелу ў распаўсюджваньні пазыкі.

### ПЛЯН ТЭМЫ:

1. Значэньне дзяржпазык для справы сац. будаўніцтва ў СССР.
2. Фінплян 31 г. і пазыка „III рашаючага году пяцігодкі".
3. На якіх умовах выпушчана пазыка.
4. Клясавая барацьба і барацьба на два фронты пры правядзеньні кампаніі па рэалізацыі пазыкі.
5. Задачы данага прадпрыемства, саўгаса, калгаса, парт. школы і гуртка ў справе распаўсюджваньня пазыкі.

## Заўвагі:

1. Гутарку трэба пачаць з высьвятленьня значэньня пазык для справы сацыялістычнага будаўніцтва ў СССР.

Асноўнымі крыніцамі сродкаў для сац. будаўніцтва ў нашых умовах зьяўляюцца накапленьні прыбыткаў прамысловасьці і мабілізацыя сродкаў насельніцтва. Спадзявацца на колькі-небудзь значныя замежныя крэдыты нам не прыходзіцца. Тым больш за апошні час, калі „супярэчнасьці паміж капіталістычнай і сацыялістычнай сыстэмай ніколі не разьвіваліся з гэткай сілай“, калі сусьветная буржуазія пераходзіць „да тактыкі ўдару звонку шляхам эканамічнае блякады і ваенай інтэрвэнцыі“. (Рэзалюцыя XI пленуму ВКК). Эканамічная блёкада зьяўляецца адначасова і фінансавай блёкадай.

Шырокія масы працоўных СССР добра разумеюць, што дзяржаўныя пазыкі ў СССР зьяўляюцца сродкам сацыялістычнага будаўніцтва і падставай далейшага ўздыму матар'яльнага і культурнага добрабыту мас, у працілегласьць капіталістычным краінам, дзе дзяржпазыкі маюць сваей мэтай пакрыцьцё выдаткаў на ўзбраеньні, падрыхтоўку новых войн, падрыхтоўку інтэрвэнцыі ў СССР, барацьбу з рэвалюцыйным рухам.

Рабочая кляса СССР, у асобе рабочых перадавых заводаў, сама высоўвае прапановы аб выпуску новых пазык. Дзякуючы энтузіазму мас, кантрольныя сумы апошніх пазык увесь час перавышаюцца.

Прынамсі, па БССР:

| | Кантрольн. задан. | Рэалізавана |
|---|---|---|
| 1-я пазыка індустрыялізацыі . | 2 100.000 руб. | 2.702.000 руб. |
| 2-я „ „ | 5.200.000 „ | 10.264.000 „ |
| 3-я „ „ | 11.550.000 « | 17.970.000 „ |
| „Пяцігодка у чатыры гады“ . | 19.700.000 „ | Каля 20 мілён. |

2. Паказаць, што выкананьне фінпляну бягучага году мае вялізарнае значэньне для справы „завяршэньня пабудаваньня фундаманту сацыялістычнай эканомікі СССР“. Пуск новых 518 буйнейшых прадпрыемстваў, 1040 новых МТС,

дэлейшае пашырэньне прадукцыі заводаў, калгасаў і саўгасаў, рэканструкцыя транспарту і г. д. патрабуе водпуску сродкаў у разьмеры 21 міліард руб., з якіх 17 млр. на капітальныя ўкладаньні.

Па БССР у 1931 г. намечана затраціць 85 млн. руб. на капітальнае будаўніцтва прамысловасьці. 176 млн. на сельскую гаспадарку, 143 млн. на народную асьвету, 16 млн. на дарожнае будаўніцтва. У бягучым годзе паступленьні ад дзяржпазык складаюць каля 35 проц. бюджэтнага фінансаваньня ўсяго капітальнага будаўніцтва. З агульнай сумы мабілізацыі сродкаў насельніцтва па СССР у 1931 г. у 6,5 млр руб. на пазыкі прыпадае 1,3 міліарда руб.

Ня гледзячы на вялікую ролю, акая адведзена мабілізацыі сродкаў насельніцтва у справе выкананьня фінпляну 3-га году, гэта работа ўвесь час адстае, дзякуючы недастатковай гібкасьці нашых фінансавых органаў, недастатковай увагі да фінансавай работы з боку шэрагу раённых партарганізацый.

Плян мабілізацыі сродкаў за 1-й квартал 1931 г. не давыканан.

Выкананьне пляну 2-га кварталу, як па СССР, так і па БССР, ідзе нездавальняючымі тэмпамі. Так па БССР плян II-га кварталу па мабілізацыі сродкаў насельніцтва выканан на 1-VI толькі на 41,6 проц.

Кварт. плян паянакапленьня па вясков. спаж. каап. выкананы на—27,6 проц.
„ „ „ « гораду „ „ „ „ —54,5 „
„ „ уцягненьня новых укладаў у ашчадкасу . . —23,4 „
„ „ рэалізацыі акцый Трактарацэнтру . . . . —63,0 „
„ „ паступленьня узносаў па пазыках . . . . —37,8 проц.

Тым большае значэньне набывае хутчэйшая рэалізацыя і хутчэйшае паступленьне ўзносаў (не чакаючы афіцыйнага тэрміну першага ўзносу—15-VIII-31 г.) па пазыцы імя „III рашаючага году пяцігодкі“.

Паказаць слухачам, што ўдарная работа па распаўсюджваньню новай пазыкі ні ў якім разе не павінна адцягнуць увагі ад іншых крыніц мабілізацыі сродкаў насельніцтва. Наадварот кампанія па рэалізацыі пазыкі павінна быць адначасова і кампаніяй па грамадзкай праверцы ходу паступленьняў па І-му выпуску пазыкі „Пяцігодка за ча-

тыры гады", аднаразовага збору на жыльлёвае будаўніцтва, работы ашчадкас, ходу паянакапленьняў каапэрацыі, рэалізацыі акцый Трактарацэнтру 1 г. д."

3. Гэты разьдзел мае мэтай канкрэтнае азнаямленьне з умовамі, на якіх выпушчана новая пазыка, з тым, каб кожны слухач змог стаць агітатарам і арганізатарам падпіскі на пазыку. Асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на наступныя моманты:

а) Са ўсёй сумы пазыкі у 1.600 млн. руб. ня менш 500 млн. павінна быць распаўсюджана ў вёсцы, (па БССР агульная сума пазыкі 42,100 тыс. руб. з іх для вёскі 16 млн. руб.), што зьяўляецца цалкам рэальным, прымаючы пад увагу посьпехі калектывізацыі і рост даходнасьці сельскае гаспадаркі. У сярэднім па саюзу на 1 гаспадарку прыпадае пазыкі 20 руб., у той час, як на аднаго рабочага прыпадае 70 руб. пазыкі.

б) Уся кампанія павінна прайсьці пад лёзунгам: „Ні воднага працоўнага без пазыкі 3-га рашаючага году пяцігодкі", „Ня менш 3-хтыднёвага заработку рабочага і служачага, ня менш 3-х тыднёвага даходу калгасьніка і аднаасобніка на пазыку". Камсамол праводзіць кампанію пад лёзунгам: „Ня менш 3-хтыднёвага заработку для нізка аплачваемай групы камсамольцаў і моладзі, ня менш месячнага заработку для больш высока аплачваемых і ня менш 3-хтыднёвага даходу аднаасобніка-селяніна-камсамольца".

в) „Ад сумы пазыкі, разьмешчанай сярод сялянскага насельніцтва на тэрыторыі кожнага сельскага савету, адлічваецца да 30 проц. у сельскі бюджэт і звыш таго да 20 проц.—у раёны бюджэт. Ад сумы пазыкі, разьмешчанай на тэрыторыі кожнага гор. паселішча сярод рабочых і служачых, адлічваецца у гор. бюджэт да 15 проц.., а ад сумы пазыкі, разьмешчанай сярод астатняга насельніцтва,—да 50 проц.

Трэба падкрэсьліць, што вялічыня адлічэньня у мясцовы бюджэт не зьяўляецца аднолькавай для ўсіх, а залежыць „ад выкананьня мясцовымі саветамі плянавых заданьняў па разьмяшчэньні выпуску „III рашаючы год пяцігодкі" і моцнасьці паасобных мясцовых бюджэтаў. Пры гэтым разьмер адлічэньняў ня можа быць ніжэй 10 проц." (пастанова ЦВК і СНК СССР аб выпуску пазыкі).

4) Паказаць, што распаўсюджваньне новай пазыкі, накірованай на далейшае ўзмацненьне сацбудаўніцтва, ня можа не выклікаць упартага супраціўленьня клясавага ворага. Кулацкай агітацыі супроць пазыкі павінен быць дадзены самы рашучы адпор. Падпіскай трэба ахапіць у асноўным усіх працоўных гораду у працягу ўдарнай дэкады з 15 па 25 чэрвеня для таго, каб потым зьвярнуць усю ўвагу на распаўсюджаньне пазыкі на вёсцы. Рашучы адпор трэба даць праявам правага апартунізму пры распаўсюджваньні пазыкі (стаўка на самацёк, ныцьцё аб надта вялікай суме падпіскі, аб немагчымасьці распаўсюджыць суму ў 500 млн. руб. на вёсцы), а таксама і праявам „левага“ апартунізму (адмаўленьне ад прынцыпу добраахвотнасьці пры падпісцы на пазыку).

Пры рэалізацыі пазыкі на вёсцы нашай апорай павінен быць калгасьнік, які сваёй 100 проц. падпіскай на пазыку і арганізацыяй спэцыяльных брыгад павінен стаць агітатарам сярод аднаасобнікаў.

5) Апошні раздзел гутаркі павінен быць прысвечаны:

а) абгаварэньню ходу кампаніі на даным прадпрыемстве, саўгасе і калгасе,

б) выпрацоўцы канкрэтнага пляну ўдзелу школы ў распаўсюджваньні пазыкі.

Неабходна праверыць, як выкананы дырэктывы ЦК КП(б)Б і УсеЦСПС аб узмацненьні складу камісій садзейнічаньня і актывізацыі іх работы, ці выбраны і як працуюць грамадзкія інструктары па мабілізацыі сродкаў насельніцтва, як ідзе растлумачальная работа, як арганізавана справачная работа па новай пазыцы, як ідзе паступленьне ўзносаў па першаму выпуску „Пяцігодкі“, як разгорнута сацспаборніцтва, ударніцтва, грамадзкі буксір і конкурсы на лепшую рэалізацыю пазыкі. Што зроблена для садзейнічаньня рэалізацыі пазыкі ў падшэфным сельсавеце, вёсцы, калгасе і г. д.

Абгаварыць, што зроблена камсамольскай арганізацыяй заводу, саўгаса, калгаса для ажыцьцяўленьня дырэктывы ЦК УсеЛКСМ аб тым, што кожны камсамолец павінен завербаваць ня менш 1 падпісчыка з арганізаванага насельніцтва і 5 з неарганізаванаго насельніцтва. Як камсамольская арганізацыя ўдзельнічае ва Усесаюзнай фінансавай эстафэце па хутчэйшаму распаўсюджваньні пазыкі.

Высьвятліўшы ход кампаніі на даным прадпрыемстве, намеціць канкрэтны плян работы школы, з тым, каб дапамагчы мясцовай партарганізацыі на найбольш слабым вучастку работы. Формамі ўдзелу школы могуць зьявіцца:

а) 100 проц. падпіска з абавязкам пачаць грашовыя ўзносы ўжо з бліжэйшай палучкі і выклік на спаборніцтва іншых.

б) вылучэньне брыгад для збору і арганізацыі падпіскі сярод аднаасобнікаў, у бліжэйшым калгасе і г. д.

в) вылучэньне брыгад для асьвятленьня ў друку ходу кампаніі на даным прадпрыемстве, саўгасе, калгасе.

г) вылучэньне брыгад па праверцы работы па іншых відах мабілізацыі сродкаў насельніцтва.

д) арганізацыя сіламі школы спэцыяльных вечароу, прысьвечаных дзяржпазыкам і г. д.

У канцы гутаркі прывесьці слухачоў да вываду, што „ажыцьцяўленьне задачы дагнаць і перагнаць у тэхніка эканамічных адносінах перадавыя капіталістычныя краіны у тэрмін больш кароткі чым у 10 год, стаіць у простай залежнасьці ад тэмпаў індустрыялізацыі, ад размаху новага сацыялістычнага будаўніцтва. Вось чаму кожны працоўны павінен ведаць, што ў залежнасьці ад яго ўдзелу ў штодзённым сацыялістычным будаўніцтве, у мабілізацыі ўсіх унутраных расурсаў краіны, а значыцца ад ступені актыўнага ўдзелу ў рэалізацыі пазыкі залежыць посьпех той вялікай справы, за якую змагаецца першая ў сьвеце пралетарская дзяржава“ („Правда“ 10-VI—31 г. перадавая).

## Літаратура:

### Для слухачоў:

Зьвязда 10-VI— і 11-VI—31 г., Правда 10-VI—31 г.
Ком. Правда 10-VI—31 г., Эканамічнае Жыцьцё 10-VI—31 г. і інш. газэты за 10-VI—31 г.

### Для кіраўніка:

**Можна выкарыстаць матар'ял з брашур:**

**Эпштэйн**—Пазыкі і ашчадкасы ў пяцігодцы.
Фінансы 3-х год пяцігодкі.
**Пановка**—Дзяржпазыкі СССР.
„ Дзяржпазыкі пазыкі ў вёску.
**Тамаркін**—Нашы пазыкі і сацбудаўніцтва.
**Андрэяў**—Пазыка „Пяцігодка за чатыры гады"



**Склал: ОРЛІС.**

Рэдкалегія: **Модэль**—(адказны рэдактар),
**Гаеўскі, Улазаў, Голанд, Гурвіч.**



Галоўлітбел № 1428. Тыраж 4.000 экз.
Вучэбная друкарня Камвузу. Заказ № 310.

